КРЫМІНАЛ

# Таго, хто пакалечыў сястру Васіля Быкава, не знайшлі

Як паведамляла «Народная Воля», 27 мая на Валянціну Быкаву быў здзейснены напад ва ўласным доме ў вёсцы Ваўчо Ушацкага раёна. Невядомы пранік у дом каля 9 раніцы і моцна збіў адзінокую пенсіянерку. У яе была зламана правая рука, пашкоджана левая, а на целе засталося шмат сінякоў. Злачынец уцёк, не паспеўшы нічога ўзяць з хаты.

Некалькі дзён Валянціна Быкава правяла ва Ушацкай бальніцы, але на пачатку чэрвеня была пераведзена ў Віцебск. Сястра сусветна вядомага пісьменніка памерла 4 ліпеня, а праз тры дні ёй споўнілася б 90 год.

З моманту здарэння прайшло больш за паўгода. «Народная Воля» пацікавілася ходам расследавання.

– *У лістападзе мінулага года было прынята рашэнне аб прыпыненні папярэдняга следства ў сувязі з неўстаноўленнем асобы, якая падлягае прыцягненню ў якасці абвінавачанага,* – сказала афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь па Віцебскай вобласці **Святлана Сахарава.**

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

ІНІЦЫЯТЫВА

# Валянцін Байко стварае інтэлектуальны клуб

*Заснавальнік аднаго з буйных беларускіх прадпрыемстваў “Контэ Спа” распачынае сацыяльны праект «Музыка сэрца».*

*«Мы хочам арганізаваць серыю сустрэч з сусветна вядомымі сучаснікамі, людзьмі аўтарытэтнымі, мудрымі, прафесійнымі. Гэта будуць навукоўцы, дзеячы культуры, духавенства, адукацыі, спорту, медыцыны, бізнесу»,* – тлумачыць бізнесмен.

Першы госць “Контэ” – грузінскі педагог і псіхолаг **Шалва Аманашвілі**. 18–19 сакавіка ён правядзе ў Гродне аўтарскі семінар «Мама, тата, я. Ад нараджэння да паўналецця». Аманашвілі вядомы як распрацоўшчык арыгінальнай канцэпцыі гуманнай педагогікі, якая арыентавана на асобу дзіцяці, абсалютнае адмаўленне аўтарытарнай і загаднай педагогікі. Асноўныя запаведзі педагогікі Аманашвілі – верыць у бязмежнасць магчымасцяў дзіцяці, у яго ўласнае, можа, і незразумелае бацькам і навакольным, прызначэнне.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Сын пайшоў за бацькам. У ізалятар

*Працягваецца расследаванне крымінальнай справы, якая ўзбуджана ў адносінах да дырэктара філіяла “Аграфірма “Лебедзева” РУП “Мінскэнерга” Маладзечанскага раёна і яго сына – кіраўніка фермерскай гаспадаркі.*

Нагадаем: у мінулым месяцы на сайце Генпракуратуры з’явілася інфармацыя, што дырэктар падазраецца *“ў арганізацыі закупкі таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў у фермерскай гаспадаркі па завышаным кошце”.*

Пазней старшы следчы Маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта **Юрый БАГУШЭВІЧ** распавёў некаторыя падрабязнасці справы:

*“Следства мяркуе, што бацька з сынам дзейнічалі па папярэдняй змове. Аграфірма купіла ў фермерскай гаспадаркі 9600 кг блока-лізунца. Фактычна бацька выплаціў сыну за лізунец 17.982 рублі 70 капеек. Такія аперацыі аграфірма мае права праводзіць толькі пасля праведзенага тэндара і ўзгаднення з РУП “Мінскэнерга”, якому яна належыць. Тэндар быў праведзены фіктыўна, на паперы, а ўзгаднення з “Мінскэнерга” не было наогул. У выніку такіх дзеянняў аграфірма пераплаціла фермерскай гаспадарцы 5600 рублёў. Адным словам, бацька даў магчымасць сыну незаконна зарабіць гэтыя грошы, а аграфірме адпаведна на гэтую суму быў нанесены ўрон”.*

Крымінальная справа расследуецца па ч.2 арт.426 Крымінальнага кодэкса і прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад 2 да 6 гадоў. Сын і бацька зараз знаходзяцца ў следчым ізалятары.

Тым часам у аграфірме “Лебедзева” мне кажуць, што *“ўся гэтая непрыемная гісторыя”* не адбілася на рабоце гаспадаркі.

– Я пастаўлены на нявызначаны тэрмін, каб нармалізаваць сітуацыю і каб людзі паніку не паднялі, – распавёў “Народнай Волі” выконваючы абавязкі дырэктара аграфірмы “Лебедзева” **Ігар ГРЫБОЎСКІ**. – Хаця не сказаў бы, што з узбуджэннем крымінальнай справы адразу ж рэзка ўпалі надоі альбо знізіліся нейкія іншыя паказчыкі. Працуем у штатным рэжыме, а суд разбярэцца, хто правы, а хто вінаваты.

**– Раней вы на якой пасадзе былі?**

– Працаваў намеснікам дырэктара па вытворчасці. Таму для мяне хіба што назва пасады змянілася, а праца засталася тая ж самая.

**Віктар ШПАК.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

*Бывший директор холдинга «Могилевская молочная компания «Бабушкина крынка» **Игорь Кончук** теперь является членом парламента. Он рассказал «Народной Воле» о том, что еще раньше купил в Минске трехкомнатную квартиру и какие отпускные получил накануне отъезда в столицу.*

# Его расставание

**– Игорь Павлович, признайтесь: жаль было расставаться с предприятием?**

– Конечно, жаль, тем более мы с командой создали эту молочную империю фактически с нуля. Ведь раньше там был один небольшой заводик, а получился огромный холдинг. И у нас многое получилось. 85 процентов всего сырья, которое производится и продается в Могилевской области, перерабатывается именно холдингом «Могилевская молочная компания «Бабушкина крынка».

**– На кого оставили холдинг?**

– У меня было восемь заместителей. Сейчас обязанности исполняет один из них. А руководителя определит руководитель области. У нас очень мощные кадры, серьезная команда. Есть из кого выбирать.

**– Честно говоря, не совсем понимаю, зачем вы пошли в депутаты…**

– Я считаю, что в жизни нужно попробовать все. Говорят, оптимальный срок работы на одном месте – 10 лет, а я 13 лет руководил предприятием. Конечно, в Овальном зале специфика совершенно другая. Но работы и здесь хватает, это я уже понял. Ну и по натуре я человек очень коммуникабельный, мне нравится общаться с людьми. И когда избиратели обращаются ко мне со своими проблемами, мне хочется им помочь.

**– Ваш коллега Николай Улахович недавно рассказывал, что в последнее время многие приходят с просьбой помочь устроиться на работу. А к вам с какими вопросами обращаются?**

– С самыми разными, спектр тем очень широкий. В Бобруйске, например, попросили ускорить строительство школы – там новый микрорайон, и детей приходится далеко возить. Много вопросов связано с жилищно-коммунальным хозяйством.

**– Вы наверняка знаете, что о работе депутатов многие отзываются нелестно. Есть мнение, что так называемые народные избранники ни за что не отвечают, острых вопросов правительству не задают. Зато тихо отсидел два срока в Овальном зале – получил высокую пенсию и…**

– Ну это у кого какая цель. Думаю, тут есть чем заняться и показать результативность.

**– А у вас есть конкретный план работы, перечень вопросов, к которым вы хотели бы привлечь внимание в первую очередь? Например, сейчас на виду деятельность Анны Канопацкой. Она сообщает в социальных сетях буквально о каждом своем шаге.**

– Так Канопацкая здесь уже почти четыре месяца, она освоилась! А я только третью неделю, потому что перешел на профессиональную основу в Палату представителей только с 9 января. Честно говоря, я еще и осмотреться толком не успел. Пока организационные вопросы решил, пока медкомиссию прошел, пока быт наладил. Нужно было время, чтобы даже те же кастрюли из Могилева сюда перевезти.

**– Вы получили служебное жилье?**

– Нет. У меня в Минске есть собственное. В 2007 году мы с женой взяли ссуду в банке и купили трехкомнатную квартиру, поэтому нам было куда переезжать.

**– Когда в Могилеве жили, квартиру в аренду сдавали?**

– Сами понимаете – коммунальные услуги платить сложно, если в квартире никто не живет. Поэтому она не пустовала, родственники жили.

**– Насколько я знаю, в Минск вы переехали вместе с супругой. А дети?**

– Дочка взрослая, у нее своя семья, дети.

**– Они тоже в столице обосновались?**

– Нет, здесь только мы с супругой. Она уже на заслуженном отдыхе, поэтому без проблем поехала со мной.

**– Игорь Павлович, а зарплату депутатскую уже успели получить?**

– Не за что еще платить, да у меня пока еще даже карточки нет – не успел оформить. *(Разговор был с неделю назад.* – **Авт.**). Но не бедствую. На предприятии перед отъездом получил хорошие деньги. У меня было 167 суток неиспользованного отпуска! Конечно, это не пример для подражания, потому что отдыхать все же надо.

**– Сегодня некоторые экономисты говорят, что у нас директора предприятий не очень хорошо зарабатывают. Вы были довольны своим окладом?**

– Помимо оклада были премии, доплаты. Например, в прошлом году я получил 13 окладов бонуса за то, что мы выполнили буквально все показатели! Ну и премии есть за выполнение показателей – и месячные, и квартальные, а мы работали довольно успешно. Вот как раз сегодня, в пятницу, должны подвести итоги конкурса «Бренд года». Заранее, конечно, говорить нельзя, но несколько золотых номинаций точно будут нашими!

**– А средняя зарплата на предприятии какая при вас была?**

– Старыми деньгами выходило 7,5 миллиона. Кто-то меньше зарабатывал, кто-то больше – как и везде.

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

ПАМЯЦЬ

# Да Касцюшкі!

Ужо 17-ы год запар грамадскія актывісты ладзяць 4 лютага адмысловыя мерапрыемствы на радзіме героя ў вёсцы Косава на Брэстчыне. Сёлета арганізатары хочуць бачыць падчас святкавання як мага больш людзей.

– Дзень будзе вельмі насычаны і цікавы, – расказвае грамадскі актывіст з Кобрына Аляксандр Мех. – Раней мы збіраліся толькі ў Косаве, дзе ёсць музей Касцюшкі. Зараз геаграфію пашырылі. Пачынаем з вёскі Сяхновічы Жабінкаўскага раёна – адно з магчымых месцаў, дзе нарадзіўся Касцюшка. Тут ёсць музей і помнік. Далей едзем у Крупчыцы, дзе адбывалася бітва паміж нашымі касінерамі і рэгулярнай арміяй Расіі пад кіраўніцтвам Суворава. У Крупчыцах ёсць капліца ў гонар гэтага. І потым рухаемся ў Косава, дзе знаходзіцца Дом-музей Касцюшкі. Падчас мерапрыемства будзе ўскладанне кветак, выступяць гісторыкі, мясцовыя краязнаўцы.

Звычайна ў памятных мерапрыемствах бяруць удзел мясцовыя жыхары – грамадскія актывісты з Брэсцкай вобласці, чалавек 30–50. Гэтым разам хацелася б большай актыўнасці ад беларусаў з розных рэгіёнаў. Таму і запрашаем усіх, хто цікавіцца нашай сапраўднай мінуўшчынай. Гісторыя лепш засвойваецца менавіта там, дзе яна рабілася.

**– За ўшанаванне памяці паўстанцаў Каліноўскага тых, хто паклаў кветкі да магілы герояў, аштрафавалі. Вам асабіста, Аляксандр, выпісалі максімальны штраф – 50 базавых велічынь… Ці не баіцеся, што за ўшанаванне памяці Касцюшкі таксама пакараюць рублём?**

– Памятныя мерапрыемствы ў Косаве ладзім 17-ы год, і за ўвесь гэты час за Касцюшку штрафаў не было. Адбываецца ўсё без эксцэсаў, нягледзячы нават на тое, што актывісты могуць разгарнуць бел-чырвона-белыя сцягі. Мяркую, што і сёлета ўсё будзе адбывацца спакойна, без наступстваў.

Капліца ўсталявана ў памяць аб воінах, што загінулі ў Крупчыцкай бітве 17 верасня 1794 г.

Магчыма, улады не чапаюць нас, звычайных людзей, якія помняць і шануюць сваю гісторыю, таму, што ў Косава традыцыйна на ўшанаванне памяці Касцюшкі прыязджаюць дыпламаты з амбасад ЗША, Польшчы, Францыі і іншых краін. Летась на святочных мерапрыемствах быў тагачасны Часовы Павераны ў Справах Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі Скот Роланд…. Праўда, мясцовая ўлада для іх арганізоўвае сваё святкаванне, усё робіцца так, каб нашы шляхі ў гэты дзень не перасякаліся. Дыпламатаў і гасцей бяруць у шчыльнае кола і вядуць па строга акрэсленым маршруце. Але лепей так, чым ніяк, бо агульны вынік добры – Касцюшку ўспамінаюць і дыпламаты, і мясцовыя ўлады, і дэмакратычная грамадскасць, і мясцовыя жыхары.

Для ўсіх неабыякавых людзей хачу паведаміць, што сёлета ўсе мерапрыемствы з нагоды ўшанавання памяці Тадэвуша Касцюшкі адбудуцца ў адзін дзень – 4 лютага. Збор у вёсцы Сяхновічы ў 8.30.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

НАШЫ – ЗА МЯЖОЙ

Юрый РУБЦОЎ:

# «У Германіі на дваіх з жонкай атрымліваем 575 еўра дапамогі»

*Карэспандэнт “Народнай Волі” пагутарыў з гамяльчанінам, які каля года таму папрасіў палітычнага прытулку ў Германіі.*

У рэдакцыю днямі патэлефанаваў чытач і пацікавіўся лёсам **Юрыя Рубцова,** які быў вядомы як “чалавек-майка”, бо на вулічныя акцыі апазіцыі ў Мінску ён выходзіў у майцы з палітычнымі надпісамі. Самым вядомым стаў лозунг “Лукашэнка, сыходзь!”.

У кастрычніку 2014 года Рубцова асудзілі на два з паловай гады абмежавання волі ў папраўчай установе адкрытага тыпу, абвінаваціўшы ў абразе суддзі, а 28 мая 2015 года суд прыгаварыў Рубцова да двух гадоў калоніі агульнага рэжыму. Але 22 жніўня яго ў ліку іншых палітвязняў памілаваў сваім указам Аляксандр Лукашэнка, пасля чаго гамяльчанін прыняў рашэнне папрасіць палітычнага прытулку ў Германіі.

– З жонкай мы па-ранейшаму знаходзімся ў нямецкім Нюрнбергу, – распавёў **Юрый РУБЦОЎ** “Народнай Волі”. – Від на жыхарства пакуль не атрымалі, і нават не ведаю, у якім статусе тут знаходжуся наогул. Можна меркаваць, што гэта звязана з вялікім наплывам бежанцаў у краіну, таму нямецкія службы проста не паспяваюць разглядаць справы імігрантаў.

**– Жыллё арандуеце?**

– З жыллём, лічу, нам пашанцавала. Жывём у невялікім гатэлі, пакой хаця і невялікі (11 квадратных метраў), але маецца асобныя ванна і прыбіральня. А вось кухня – агульная. Штомесяц мы атрымліваем на дваіх 575 еўра дапамогі, але не плацім ні за камунальныя паслугі, ні за святло, ні за ваду. Дарэчы, бежанцаў у гэтым гатэлі багата. Ёсць адна сям’я з Украіны, жанчына з Эрытрэі, а астатнія – з Сірыі. Многія арабы пакуль не прызвычаіліся да еўрапейскага клімату, а таму днём адпачываюць, а ноччу вядуць актыўны лад жыцця. Мясцовым жыхарам гэта, натуральна, вельмі не падабаецца.

**– Хапае вам з жонкай 575 еўра на жыццё?**

– Хапае і на адзенне, і на харчаванне. Нават моцна эканоміць пры гэтым не даводзіцца, хаця, шчыра вам скажу, людзей, якія знаходзяцца ў такім фінансавым становішчы, у Германіі лічаць ледзь не жабракамі. Але нават гэтую “жабрацкую” дапамогу не параўнаць з тымі заробкамі, што я атрымліваў у Беларусі. Так што ў матэрыяльным плане зараз жыву куды лепш.

**– А вы ўжо прызвычаіліся да нямецкага ладу жыцця?**

– Застаюцца праблемы з асваеннем нямецкай мовы, але прызвычайваюся і да жыцця ў Германіі, і да мясцовых звычак. Даведаўся, што немцы працуюць значна менш, чым у Беларусі, пры даволі высокіх заробках, хаця не ўсе і гэтым задаволены. Заўважыў, што ў Германіі вельмі эфектыўна і эканомна размяркоўваюць працоўную сілу. У магазінах, напрыклад, зусім няма грузчыкаў. Вадзіцелі, якія прывозяць тавар, самі ж яго грузяць на вазкі і вязуць у магазін, а там тавар раскладваюць па паліцах прадаўцы. Увогуле, наймальнікі стараюцца не браць на працу лішніх людзей. Тут нават ёсць такія фірмы, якія трымаюць у штаце людзей, каб іх затым можна было здаць у арэнду іншым фірмам, дзе, напрыклад, захварэлі работнікі. Не ўбачыце ў Германіі і такога, каб фірма брала прыбіральшчыка на цэлы дзень. Ёсць клінінгавыя кампаніі, якія па заказе фірмы дасылаюць сваіх работнікаў для ўборкі на 2–3 гадзіны альбо тры разы на тыдзень. Адным словам, немцы прыслухаліся да таварыша Брэжнева, які ў свой час казаў, што эканоміка павінна быць эканомнай.

**– Калі вы можаце атрымаць від на жыхарства ў Германіі? Альбо ў гэтым могуць і адмовіць?..**

– Мы прайшлі ўжо ўсе сумоўі, апошняе было 20 верасня мінулага года. Але чакаць можна і год, і два, і тры… Былі выпадкі, калі праз сем гадоў людзям адмаўлялі ў прадастаўленні віду на жыхарства і адпраўлялі дадому.

**– А ў саміх няма жадання вярнуцца ў Беларусь?**

– Настальгія, безумоўна, ёсць, але ў той жа час я разумею, што нармальна жыць там мне ўжо не дадуць. Успомняць мінулае, нагадаюць пра эміграцыю… Жыць пад пастаяннымі рэпрэсіямі? Асабіста я гэтага не баюся, але ў такой сітуацыі ў першую чаргу павінен паклапаціцца пра сям’ю.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

КАЗУС

# Аляксандр Старавойтаў, ды не той…

Ну што тут скажаш: недарэчнасць выйшла! Вярстаючы паласу пазамінулага нумара “Народнай Волі” (за 27 студзеня), аператар адкрыла пошукавую сістэму, набрала адпаведнае прозвішча, і на экране з’явіўся здымак: **дэпутат Аляксандр Старавойтаў**. Толькі не наш, беларускі, а расійскі, з Дзярждумы. Ніхто не звярнуў увагу на “чужы” парламенцкі значок. І ў якасці ілюстрацыі да матэрыялу **“Ці атрымаецца ў выбаршчыкаў адклікаць дэпутата Старавойтава?”** выпадкова было змешчана фота маскоўскага цёзкі нашага дэпутата па Магілёўскай-Цэнтральнай выбарчай акрузе №85 Аляксандра Старавойтава. Прозвішча адно, імя – такое ж самае, а на невыразны значок дзяжурныя па нумары і не звярнулі ўвагі. Затое назаўтра адзін уважлівы чытач адразу патэлефанаваў: на здымку Старавойтаў – ды не той! Дзякуй, шаноўны, за “свежае вока”!

Не толькі ў нас здараюцца такія казусы. Але калегі некаторых выданняў робяць выгляд, што можна заплюшчыць вочы і не вяртацца да надрукаванага. У “Народнай Волі” дзейнічае няпісанае правіла: дапусцілі промах – павінна быць удакладненне. Што мы і робім сёння.

А каб у чытачоў не было прэтэнзій, вось яшчэ дадзім адну папраўку. У мінулым нумары надрукаваны вялікі праблемны артыкул **“Прэса пад рускамоўным прэсам, або Ваяўнічая змова супраць беларускай мовы”.** У ім недакладна падаецца канцоўка прозвішча галоўнага рэдактара газеты “Рэспубліка” В.Мацвеева.

Чырванеем ад сораму за брак у рабоце. Не апраўдвае нас і сцвярджэнне наконт таго, што не дапускае памылак той, хто нічога не робіць. Быць больш уважлівымі – наш прафесійны абавязак.

А пакуль прыносім прабачэнне чытачам і тым асобам, гонар якіх закранулі.

**Рэдакцыя газеты “Народная Воля”.**



ЭКСКЛЮЗИВ

Марат НОВИКОВ:

# «Политика и проституция – это одно и то же…»

*Известный бизнесмен, бывший владелец «Коммунарки» и «Спартака» живет в Нью-Йорке, но в курсе всех последних белорусских событий. Он не забыл, как у него отобрали бизнес. Не жалеет, что уехал. И продолжает любить Беларусь. Несмотря на то, что было.*

**– Марат Михайлович, расскажите, как живете.**

– У нас все хорошо. Поменяли президента. Очень большая полемика идет как внутри страны, так и за рубежом по поводу того, что Дональд Трамп может сделать и для Америки, и для всего мира.

Что касается моего личного отношения к нему, то я верю ему, потому что он бизнесмен. Он сумел заработать миллиарды! А нечестным путем в Америке заработать такое состояние невозможно. Прежде всего нужно трудиться, думать.

Но я хочу вам сказать, что США при всех президентах останутся сильной страной. Америка – умная, свободная, демократичная страна. Здесь каждый может найти себе место. Для того чтобы реализоваться, не нужно иметь влиятельного дядю или тетю, связи. Здесь всего можно достичь самостоятельно, своими мозгами и трудолюбием.

Ну вот так и живем. С надеждой. Радуемся каждому дню.

**– А вы гражданин Беларуси или Америки?**

– Я из Беларуси уезжал в 1989 году. Меня тогда просто автоматически лишили гражданства. Прожив в Америке шесть лет, я получил паспорт и стал гражданином США. Я, моя жена, дети. А внуки уже здесь родились – они автоматом гражданство получили.

Радуюсь, что когда-то благодаря своей супруге сделал правильный шаг и уехал. Именно жена настояла на этом переезде. Я еще как-то колебался, потому что жил вроде бы неплохо в Беларуси, работа была интересная. А жена настояла. Она уезжала от Чернобыля. Ее отец был большим начальником, уже в те времена ездил за границу. И она по рассказам отца знала, как в Штатах живут люди. Свободно дышат, свободно ходят, никого не боятся, никто им не диктует свою волю. Она настояла, и мы уехали.

**– Когда в последний раз вы были в Беларуси?**

– Наверное, лет пять назад.

**– Уголовных дел за вами не осталось?**

– Нет. Когда у нас начали отбирать акции, бизнес, я понял, что шутить с огнем опасно, и просто покинул пределы страны. Сейчас не приезжаю не потому, что боюсь, – за мной нет ничего криминального. Просто нет такой необходимости.

Откровенно говоря, меня обидели. Причем очень серьезно. Я 18 лет своей жизни посвятил развалившимся белорусским предприятиям, вывел их на достойный уровень и получил такое спасибо…

Если «Коммунарка» еще кое-как работала, то «Спартак» был почти закрыт. Вы возьмите интервью у бывшего директора фабрики Клавдии Тимофеевны Леоненко – мы с ней открывали шоколадный цех, снимали амбарный замок. Два сантиметра пыли было на шоколадной линии, которая почти четыре с половиной года простояла! Не работала, потому что не было ни сырья, ни денег. Потом появился Марат Михайлович, начал работать – и дела пошли довольно успешно. Я и моя команда сделали «Спартак» и «Коммунарку» фабриками, известными на весь мир.

**– Вы до сих пор не простили эту обиду?**

– Я был не первый и не последний. Со многими так поступили. Такая политика государственная, традиции…

Но самое страшное, что потом происходит, когда заводы и фабрики отбирают у инвесторов и они становятся государственными. Им вдруг резко всё мешает работать, в том числе якобы и бывшие инвесторы, показатели падают. Директорам же надо оправдываться, что у них реализации нет, экспорт мизерный – особенно по сравнению с тем, что раньше было. Сколько при Марате Новикове «Коммунарка» продавала своей продукции в Америку и сколько сейчас? Я когда уходил, на «Спартаке» было 12,5 миллиона долларов чистой прибыли за три квартала. К концу года было бы еще больше – около 20 миллионов. Вдумайтесь в эти цифры только! Но, оказывается, я был жуликом. Если так, то почему я не увез эти миллионы с собой в Америку? Да потому, что я не воровал, а занимался развитием фабрик.

**– У вас остались акции «Коммунарки» и «Спартака»?**

– Нет, почти все забрали.

Марат Новиков с семьей.

Из личного дела

*Марат Новиков родился в Минске. В 1976 году окончил Белорусский институт народного хозяйства. Работал в ЦУМе, в системе «Интуриста». Последнее место работы – 3-й «Советский» магазин. По собственному признанию, покинул СССР из-за опасений за будущее своих детей. В США стал вице-президентом крупной финансовой компании Double Star International. До 2012 года Марат Новиков контролировал две крупнейшие кондитерские фабрики страны. Затем случилась приснопамятная национализация «Спартака» и «Коммунарки». Новиков стал персоной нон-грата в Беларуси.*

Осталось на «Коммунарке» 5 или 6 процентов, на «Спартаке» – около 21 процента акций.

**– Дивиденды регулярно получаете?**

– Там же практически все государственное. Есть указ президента: предприятия, где контрольный пакет акций у государства, должны с прибыли 50 процентов отдавать государству. А остальное идет на развитие предприятия. В прошлом году, знаю, в модернизацию вкладывали. Правда, что точно на «Коммунарке» модернизируют – я не в курсе. Знаю, что на «Спартак» уже после нас купили вафельную линию за 7,5 миллиона евро. Хотя, на мой взгляд, она не нужна. Хорошо, если процентов 40 этих вафель продается. Сегодня вафли производятся в каждой подворотне, когда мы работали, это была самая нерентабельная продукция. Но вперли туда такие деньги…

**– Знаю, что вы и сегодня занимаетесь шоколадным бизнесом. Как успехи?**

– Мы производим свою продукцию на литовских и польских фабриках. Сейчас прорабатываем вопросы сотрудничества с немцами.

Напишите, что мне нужно дать Героя Соцтруда! Дело в том, что я в Америке продаю продукцию 19 белорусских предприятий. Начиная от хлеба и заканчивая сгущенкой, сахаром. Мы – лицо Беларуси в Америке. Напишите, пусть узнает Лукашенко, что Марат Новиков и после всего того, что было, продолжает продвигать товары белорусских производителей на американском рынке. И делаю я это уже 18 лет. На свои честно заработанные деньги открыл здесь базу.

**– Это приносит неплохую прибыль, ведь так?**

– Давайте начнем с того, что у меня пять внуков, двое детей и жена-красавица. Мне нужно быть хорошим отцом, дедушкой и мужем. Я должен зарабатывать деньги. И, кстати, в отличие от некоторых, умею это делать.

Слава Богу, у меня уже есть пенсия. Неплохая, кстати. Потому что я всю жизнь честно работал, получал солидную зарплату, и в Америке теперь у меня хорошая пенсия.

**– Назовите сумму, чтобы белорусские пенсионеры по-доброму позавидовали…**

– 2700 долларов – это вместе с медициной. У моей жены – 1000. Для Беларуси это огромная пенсия, а здесь – самая обычная.

Ну вот давайте посчитаем: машину нужно взять в рент – это примерно 350 долларов в месяц плюс страховка 200 долларов. Я живу в собственном доме, построил его (в 1994 году начал и в 1997-м закончил) на те деньги, которые заработал еще до «Спартака». За страховку дома ежемесячно нужно платить около 900 долларов. Поэтому получается примерно так: половину наших с женой пенсий нужно отдать, а половина остается на жизнь. Но по здешним меркам это считается средний уровень жизни. Мы можем позволить себе слетать два раза в год на курорт и внукам подарки покупать. Слава Богу, дети получили американское образование, дочь у меня финансист высшей категории, владеет тремя иностранными языками. Талантлива, умна – впрочем, как говорится, на яблоне груши не растут.

**– Если не ошибаюсь, у вас под Минском в Раубичах был дом – вы жили по соседству с бывшим министром иностранных дел Петром Кравченко. Сегодня за домом кто-то присматривает?**

– Этот дом принадлежит женщине, которая проработала со мной 37 лет. И когда она захотела что-то построить, я помог ей с участком – у меня были связи, и я не скрываю этого. А финансировал строительство ее отец. Почему все считали, что это мой дом? Все думали, что я для себя пробиваю этот участок. Но дом был зарегистрирован на ее отца и мать, а когда они умерли, перешел ей по наследству. Я как бы снимал в этом доме несколько комнат. Сейчас это ее дом. Кому хочется, те говорят, что это мой дом. А кто хочет узнать, как на самом деле, – я рассказываю. Если бы это был мой дом, я давно бы его продал.

**– Вы внимательно следите за всеми событиями, происходящими в Беларуси. Даже комментировали арест «стекольного короля» Александра Муравьева. Кстати, ему дали 11 лет лишения свободы…**

– Да, я в курсе про приговор. Знаете, с одной стороны, мне его жалко. А с другой… Меня тоже посадили бы, если бы я не уехал. С одной стороны, я жалел бы себя, что, дурак, не уехал. А с другой стороны, ну система такая, и все это знают.

**– Вы очень аккуратно говорите о политике…**

– Я не оппозиционер. Никогда политикой не занимался и не хочу. Мой тесть, умнейший человек, всегда говорил, что политика и проституция – это одно и то же. Я запомнил это на всю жизнь. Поэтому не лезу в политику никогда. И своим детям об этом все время говорю.

**– В последнее время немало известных бизнесменов гостили в СИЗО КГБ. Чиж, Япринцев, Павловский, теперь вот Кнырович…**

– Некоторым, может, будет сложно понять, что я скажу, но в Америке не воруют. Вот я через два месяца открываю в Нью-Йорке ресторан. Будет называться «Беларуская хата». Все в лучших национальных традициях – белорусское меню, национальные костюмы, музыка. Мне нет смысла что-то химичить, потому что здесь сама жизнь – это ОБЭП, сама жизнь все контролирует. Например, вас обсчитали в ресторане, плохо накормили – вы больше туда не пойдете. Вы выпускаете плохие трактора – их никто не будет покупать, компания разорится. Скажем, будет в Бруклине какое-то празднество. Накануне этого торжества мэр Бруклина не позвонит моему сыну, который занимается продажей белорусской продукции, и не скажет в приказном порядке, чтобы мы выставили свои товары во время торжества. Это абсурд! Потому что бизнесменов не надо заставлять. Они сами хотят зарабатывать и ради своей рекламы поедут на это торжество и будут продавать свои конфеты, квас «Крыніца» и так далее.

Понимаете, почему я говорю, что здесь дышится по-другому?

Идеология хозяйственной деятельности здесь иная. Подход другой. В Беларуси палочная дисциплина. А здесь нет дисциплины, здесь есть законы, в том числе и законы жизни. Хочешь заработать деньги – крутись, думай, совершенствуй себя, стиль своей работы и так далее. А в Беларуси это не нужно.

**– Марат Михайлович, а когда у вас начали отбирать бизнес, вы писали письма Лукашенко? Спрашиваю, потому что многие бизнесмены, угодив на нары, через день-другой сразу сочиняют покаянные послания…**

– Я написал письмо Лукашенко. И знаю, что он дал его прочитать некоторым товарищам, в том числе и бизнесменам. Смысл был такой: наша компания всегда работала добросовестно и честно. Все, что закупали для фабрик в Америке, шло на нужды фабрик. Никаких оффшоров у нас не было, мы честно платили налоги. У нас была прозрачная белая бухгалтерия, без всяких там откатов и прикатов.

В мою бытность мы обновили автопарк. Для «Спартака» купили 25 фур «Вольво», на «Коммунарку» – 20 «Манов» с рефрижераторами. Вы представляете, сколько это денег стоит? А сейчас машины распродали, в том числе и за долги…

Я как-то беседовал со специалистами из аналитического центра. Они говорят: мол, у вас экспорт хороший, а как на других предприятиях достичь аналогичных показателей? Я им сказал: у вас ни один начальник отдела внешнеэкономических связей не говорит на иностранном языке, не говоря уже о его подчиненных. Как эти люди могут сделать экспорт? Об этом, насколько я знаю, доложили Лукашенко, и он на одном из совещаний фактически моими словами сказал: скоро у нас иностранцы на русском будут лучше говорить, чем наши начальники внешнеэкономических отделов – на английском.

Кстати, об иностранцах. С ними нужно не просто деловые переговоры вести, а контактировать! Ходить на футбол, интересоваться, как их баскетбольная команда сыграла, как им «Лидское пиво» и так далее. Ну это же жизнь!

**– Кстати, о жизни. На когда запланировано открытие нью-йоркской «Беларускай хаты»?**

– У меня есть такой же ресторан в Москве. Он входит в 50 лучших ресторанов российской столицы. В пятницу, субботу и воскресенье к нам не попасть!

Нью-йоркский ресторан планируем открыть примерно в конце апреля, а на 5 мая, когда мне 70 лет будет, уже перережем ленточку.

Кстати, московский ресторан распахнул двери тоже к моему дню рождения – както так случайно получилось. Помню, открывали вместе с тогдашним послом Беларуси в России Василием Долголевым и премьер-министром Михаилом Мясниковичем.

**– Так может, не нарушать традицию и Мясниковича снова позвать ленточку перерезать?**

– В трудную минуту я пытался найти поддержку у Михаила Владимировича, но не смог. Как в воду канул! Но я к нему все равно настроен положительно, мне кажется, он мужик неплохой…

**Марина КОКТЫШ.**

АДРАДЖЭННЕ

Андрэй КОЛАС:

# «Мы памром, а гэтая сядзіба будзе стаяць…»

*У 2012 годзе расійскі бізнесмен **Павел Падкарытаў** за 120 тысяч долараў набыў у вёсцы Падароск, што на Ваўкавышчыне, закінутую сядзібу. Цягам наступных чатырох год ён уклаў у яе аднаўленне яшчэ каля паўмільёна долараў, але да адкрыцця комплексу, у якім размесціцца музей, гатэль і рэстаран, яшчэ далёка.*

*Пра тое, з якімі цяжкасцямі сутыкнуліся сённяшнія ўласнікі сядзібы, а таксама пра яе будучыню я паразмаўляла з дырэктарам прыватнага турыстычнага ўнітарнага прадпрыемства “Маёнтак Падароск”* **Андрэем Коласам.**

Дасье

*Першая згадка пра Падароск адносіцца да 1522 года, калі ў пераліку касцёлаў Віленскай каталіцкай епархіі быў названы Падароскі касцёл.*

*Першымі гаспадарамі мястэчка былі Клочкі. Потым яно перайшло да Дольскіх. У розныя часы тут валадарылі Сцыпіё дэль Кампа, выхадцы з Італіі, за імі – Грыбоўскія, Чачоты.*

*У 1854 годзе маёнтак у Падароску набыў сын вядомага філосафа Фларыяна Бохвіца – Раман. Ён і перабудаваў сядзібны дом у стылі позняга класіцызму. Пры ім з’явіўся спіртзавод, вадзяны млын, сукнавальня…*

### Пакой Напалеона, «крыло ад «Боінга» і міні-гатэль для наведвальнікаў

– Вось тут раней была кузня, а хутка адкрыем краму. А вось там, дзе засталіся парэшткі стайні, з’явіцца рэстаран. Прыязджайце ў кастрычніку, будзем чырвоную стужку пераразаць, – упэўнена распавядае А.Колас, праводзячы чарговую экскурсію для наведвальнікаў.

Выпадковаму госцю, які бывае ў Падароску гады ў рады, можа падацца, што ў сядзібе з 2012 года нічога не змянілася. Да сённяшняга дня не аднаўлены ні сам дом гаспадароў, ні асобныя будынкі на тэрыторыі сядзібы. Стаяць у лясах узорная брама, трохі папраўленая і закансерваваная паркавая агароджа.

Андрэй Колас кажа, што да таго, як узяцца за рэстаўрацыйныя і будаўнічыя работы, былі вырашаны многія арганізацыйныя пытанні. На “папяровай стадыі” зацвердзілі канцэпцыю развіцця маёнтка да 2021 года, падрыхтавалі праектныя дакументы, прайшлі ўзгадненні ва ўсіх органах, і нават за мінулую восень умацавалі падмуркі будынкаў.

Нядаўна ў Падароску распачалося будаўніцтва першай чаргі будучага турыстычнага комплексу. Ужо восенню адчыняцца рэстаран, крама і з’явіцца альтанка. Яны паўстануць на месцы былой стайні, кузні і хлява.

Нямала часу і высілкаў пайшло на ўзвядзенне асобнай лініі электраперадачы (ЛЭП) з трансфарматарнай падстанцыяй. Зараз побач з сядзібай ідзе мантаж дзвюх прамысловых свідравін.

Дарэчы, у Міністэрстве культуры ляжыць праект гатэля, які з’явіцца тут, у Падароску. Гаспадары маёнтка спадзяюцца, што ў сакавіку атрымаюць па ім станоўчае рашэнне і тады распачнуць будаўніцтва другой чаргі комплексу. Рэстаўрацыя гістарычнага будынка сядзібы запланавана на канец усіх работ.

– Гэта будзе цікавае для наведвальнікаў месца, з мультымедыя, віртуальнымі вандроўкамі і класічнымі музейнымі выставамі, з аднаўленым пакоем, у якім адпачываў сам Напалеон, – тлумачыць Андрэй Колас.

“Падароск” – не камерцыйны праект. Асаблівага прыбытку ад яго, хутчэй за ўсё, не будзе. “Добра, калі выйдзем на “нуль”, гэта ўжо будзе перамогай”, – заўважае Колас.

У адраджэнне маёнтка інвеставана ўжо больш за паўмільёна долараў. Нямала сродкаў спатрэбілася на “крыло ад “Боінга” – так дырэктар называе новую футурыстычную страху, якая накрые рэшткі былой стайні і будучы рэстаран. А яшчэ ж неабходна замовіць павільёны, якія будуць размешчаны ўнутры старых будынкаў, каб не кранаць і не псаваць двухсотгадовыя сцены…

– Думаю, што за 2017 год мы, калі гаварыць пра інвестыцыі, выйдзем на лічбу ў мільён і болей долараў, – кажа дырэктар маёнтка Андрэй Колас.

### «Штат раздзімаць не будзем…»

Аднаўленне сядзібы, лічы, толькі-толькі пачалося, а на парадку дня ўжо стаіць кадравае пытанне. Штодня нехта з мясцовага люду просіцца на работу. Але відавочна, што далёка не ўсе адпавядаюць патрабаванням.

– Мы шукаем людзей з турыстычнай адукацыяй. А мне тэлефануюць і кажуць: “Хачу стаць ахоўнікам”, – дзеліцца Андрэй Колас. – Пры прыёме людзей на працу мы прытрымліваемся такога правіла: сёння ты вартаўнік, а потым станеш экскурсаводам. Да прыкладу, у кафэ будуць працаваць два чалавекі. Адзін стане сачыць за касай і продажам, другі – за парадкам і чысцінёй. Але яны будуць мець турыстычную адукацыю і пры нагодзе і патрэбе змогуць і экскурсію правесці як па маёнтку, так і па ваколіцах. Трэба будзе толькі аднаму пераапрануцца ў шляхецкае адзенне, а другі так і застанецца працаваць у кавярні. Я не магу раздзімаць штат, а мясцовыя людзі гэтага не разумеюць.

Але гэта не азначае, што нехта паводзіць сябе з тутэйшым насельніцтвам, як калісьці паны. Пры неабходнасці турыстычнае прадпрыемства дапамагае і мясцовай школцы, і каталіцкай парафіі, і праваслаўнаму прыходу. То грашыма, то будаўнічымі матэрыяламі, то падарункамі для дзетак.

Андрэй Колас, які, дарэчы, пераехаў у Падароск разам з сям’ёю з горада, запэўнівае, што для яго сядзіба ўжо не чужая. І што ні ён, ні Павел Падкарытаў не маюць у планах разваліць маёнтак.

– Гэтая сядзіба ўжо 200 год стаіць. Мы памром, а яна будзе стаяць, – упэўнены дырэктар “Маёнтка Падароск”. – І мы для гэтага зробім усё. Падароск – сацыяльна-культурны праект, які рэалізуецца для нашчадкаў. Наш музей беларускай шляхты надасць маёнтку новае жыццё, якое ў свой час загубіла савецкая ўлада.

**Яніна МЕЛЬНІКАВА.**

